www.nv-online.info

№ 26 (3869)

4 красавіка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

## Сенсацыя!

**Ніколі і ў галаву не прыйшло б адсочваць выбары ў далёкім ад сталіцы Мсціслаўскім раёне, але людзі дасведчаныя шматзначна параілі пацікавіцца. Пацікавілася і... не пашкадавала. Бо ў Беларусі знайшоўся рэгіён, у якім прайшлі амаль дэмакратычныя выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў.**

**Сенсацыя! Немагчыма! І ўсё ж...**

**У Мсціслаўскім раёне сапраўды многае было не так, як у іншых.**

**Па-першае, абсалютна ва ўсіх акругах выбары праходзілі на альтэрнатыўнай аснове. І гэта ў той час, калі, напрыклад, у Віцебскай вобласці "конкурс" у райсаветы складаў усяго 1,1 кандыдата на месца. Гэта значыць таго конкурсу ўвогуле не было: дзенідзе па гарадах сустракаліся акругі з некалькімі кандыдатамі, але ў цэлым вобласць засталася "стэрыльнай" ад якой-небудзь альтэрнатывы.**

**Па-другое, як засведчылі вынікі галасавання, у Мсціслаўскім раёне па большасці акруг кандыдаты літаральна дыхалі адзін аднаму ў спіну. Здаралася, што іх раздзялілі проста лічаныя галасы. А гэта ж трэба было тыя галасы лічыць...**

**Трэцяе. У Мсціславе вызначыць пераможцу, паглядзеўшы толькі на прозвішча і месца працы кандыдатаў, пазначаныя на выбарчых плакатах, было немагчыма. Бо тут не вялася звычайная гульня ў паддаўкі, калі на адной акрузе сустракаюцца сталяр і дырэктар дрэваапрацоўчага прадпрыемства, даярка і старшыня калгаса, беспрацоўны і галоўны пракурор. Хаця шмат гадоў на беларускіх выбарах менавіта так і было заведзена.**

**Адным словам, падобнага ў Беларусі ўжо даўно не было. Ды вось здарылася. Праўда, з важнай агаворкай.**

**Сярод кандыдатаў у дэпутаты Мсціслаўскага раённага Савета не аказалася ніводнага апазіцыянера, дый увогуле ніякіх партыйных кандыдатаў не было. Аніводнага! Нават праўладныя партыі ў выбарах не ўдзельнічалі, хаця ім толькі свісні. У выніку ў Мсціславе "правільныя" кандыдаты змагаліся адзін з адным.**

**Ды што змагаліся! Рэзаліся, біліся, канкурыравалі!!! Вынікі галасавання часам аказваліся не проста нечаканымі, а сенсацыйнымі!**

**Ну вось, напрыклад, на каго б вы паставілі, ведаючы, што па адной акрузе балатуюцца намеснік начальніка раённага аддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні і загадчыца дзіцячага садка?**

**Ясна, што на аднаго з галоўных міліцыянераў раёна. Бо што такое дзіцячы садок? Тым больш што старшыні выбарчых камісій ужо ў тым узросце, калі іхнія дзеці не тое што садкі — школы і інстытуты пазаканчвалі. Зусім іншая справа — адказны за чысціню міліцэйскіх кадраў усяго раёна! Гэта ж не проста важны, а надзвычай патрэбны ў жыцці чалавек, той, каго трэба залагоджваць, з кім трэба сябраваць.**

**Так разважалі б у любым рэгіёне Беларусі, і з вялікай доляй верагоднасці можна прагназаваць, што на любых іншых выбарах сапраўды менавіта высокапастаўлены ахоўнік правапарадку і перамог бы... Але ў Мсціславе здарыўся цуд. Тут падлічылі галасы! І аказалася, што вопытны педагог Ганна Самойленка паклала важнага міліцэйскага чына Андрэя Пратасевіча на лапаткі. Бо за яе прагаласавалі 167 выбаршчыкаў, а за яго — толькі 102.**

**Сітуацыя тым больш дзіўная, што разрыў, па беларускіх мерках, зусім невялікі. І, будзем шчырымі, досыць лёгка было крыху бюлетэняў за спадарыню Самойленка сапсаваць, а за спадара Пратасевіча — падкінуць. Але ў Мсціславе гэтага не зрабілі. Дзіва дзіўнае!**

**На яшчэ адной акрузе сышліся прадстаўніца мірнай прафесіі — загадчыца цэнтральнай раённай аптэкі Таццяна Дамарацкая і начальнік Мсціслаўскага раённага дэпартамента "Ахова" Міністэрства ўнутраных спраў Канстанцін Старавойтаў. І тут людзі аддалі свае галасы зусім не міліцэйскаму бажку раённага ўзроўню. Можна нават сказаць — дэманстратыўна яго "пракінулі", аддаўшы 160 галасоў аптэкарцы і толькі 61 — міліцыянеру! Сапраўдны разгром!**

**Ледзь-ледзь прабіўся ў дэпутаты, крыху рэабілітаваўшы гонар міліцэйскага мундзіра, Раман Косік, начальнік аддзела прафілактыкі правапарушэнняў усё таго ж Мсціслаўскага РАУС. Яму канкурэнцыю складаў намеснік дырэктара ААТ "Мсціслаўлён" Уладзімір Піванкоў. У выніку на гэтай акрузе здарылася даўным-даўно забытая ў Беларусі сітуацыя, калі кожнаму з кандыдатаў сапраўды быў важны кожны выбаршчык і кожны голас. У выніку Раман Косік выйграў з перавагай... усяго ў 9 галасоў!**

**Проста нейкі азарт бярэ ад такіх лічбаў. Два праўладныя кандыдаты... Не біліся, не размахвалі чамаданамі з кампраматам, не крытыкавалі ўладу, але да апошняга прысутнічала інтрыга — галоўная прыкмета сапраўдных выбараў.**

**І вось што важна: гэтая нечаканая мсціслаўская палітычная адліга цалкам абвергла завядзёнку беларускіх выбаркамаў, якія раз за разам дружна сведчылі, што беларускі народ заўсёды падтрымлівае начальства. Аказалася — не. Не такі ўжо дурны наш народ. Па крайняй меры мсціслаўцы на апошніх выбарах дулі з карманаў падаставалі.**

**Самыя высокія мясцовыя начальнікі, праўда, пад "цуд" не трапілі, іх сапернікі, як і раней, былі відавочна "дзяжурнымі" (напрыклад, з намеснікам старшыні райвыканкама па ідэалогіі "канкурыравала" простая выхавальніца вясковага дзіцячага садка). Але і без таго ёсць яскравыя прыклады. І па выніках галасавання смела можна рабіць выснову, што словы "раённы выканаўчы камітэт", пазначаныя як месца працы кандыдата ў дэпутаты, перамогі не забяспечваюць. Гэтаксама, як і іншыя высокія пасады, перад уладальнікамі якіх, здавалася б, павінен стаяць па стойцы "Смірна!" увесь раён.**

**Вось толькі некаторыя прыклады.**

**На акрузе сышліся намеснік старшыні мясцовага райспажыўтаварыства і начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама. Вынік: прадстаўнік спажыўтаварыства абышоў прадстаўніцу райвыканкама, пры гэтым з неблагім адрывам.**

**Просты майстар па рамонце транспарту з хлебазавода і начальніца раённага вузла паштовай сувязі. Выйграў... рамонтнік.**

**Галоўны аграном райаграпрамтэхснаба і настаўніца пачатковых класаў. 297 галасоў было аддадзена за настаўніцу і толькі 18 — за яе саперніка.**

**Начальнік раённых электрычных сетак і старшыня маленькага сельсавета. Зноў аплявуха: раённага ўзроўню начальнік набірае толькі 15 галасоў з 363 магчымых... Ды апазіцыянерам болей галасоў на выбарах камісіі аддавалі, а тут такое! Адным словам, у Мсціславе адбылося нешта незвычайнае, тое, што яшчэ трэба асэнсаваць.**

**Я пакуль схіляюся да думкі, што ў раёне правялі нейкі выбарчы эксперымент. Бо хоць улады і кажуць пра высокую яўку выбаршчыкаў, пра актыўнасць людзей, але слухаць гэтыя запэўніванні проста смешна. Ну якая можа быць цікавасць, калі выбіраць няма з каго, калі балатуецца адзін кандыдат ад улады і няма ніякага выбару? Далей так пойдзе — дык Цэнтрвыбаркам трэба будзе ўключаць у штат унутраных войскаў, бо без іх на ўчасткі людзей і не загоніш. Нават танная гарэлка ў буфетах ужо не дапамагае. Хоць дармавую яе дай — алкаголікі з самай раніцы папрыходзяць-панапіваюцца, а як потым забяспечыць "масоўку"?**

**Карацей, да карыкатурнага стану беларускія выбары ўжо "дадэмакратызавалі", далей — толькі галасаванне па павестцы з КДБ.**

**Ці зацікавяцца людзі выбарамі, калі даць ім магчымасць выбіраць хаця б з "правільных" кандыдатаў? Ці ўдасца стварыць нейкае спаборніцтва, не выпускаючы ў палітычную прастору апазіцыю? Думаю, у Мсціслаўскім раёне апрабавалі гэткія выбарчыя сцэнарыі. Вось толькі вынікі эксперымента наўрад ці спадабаюцца мясцовым начальнікам, бо яны ўжо даўно адвыклі нават у дробязях быць залежнымі ад волі народа. А значыць, стануць сцяной, знойдуць тысячы прычын, каб нават такі, кастрыраваны, "разгул дэмакратыі" ні ў якім разе не паўтарыўся.**

УЧОРА

### Маскоўскія перамовы

*Міністр замежных спраў Беларусі **Уладзімір Макей** учарашні дзень правёў у Маскве, дзе адбыліся ягоныя перамовы з кіраўніком расійскага МЗС **Сяргеем Лаўровым.***

На пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў СНД будзе разглядацца пытанне, хто прыме старшынства ў СНД замест Украіны. Нагадаем, што Кіеў два тыдні таму зняў з сябе гэтыя паўнамоцтвы на знак пратэсту супраць дзеянняў калег па СНД, якія пад ціскам Масквы адмовіліся абмяркоўваць "крымскае пытанне". Цяпер замест Украіны Беларусь прапаноўвае свае паслугі.

### Мірная місія

*Беларусь гатова стварыць умовы для правядзення ў Мінску сустрэчы намеснікаў міністраў знешнепалітычных ведамстваў Украіны і Расіі, калі будзе дасягнута дамоўленасць аб яе правядзенні.*

*"Беларускі бок зробіць усё неабходнае, каб забяспечыць спрыяльныя ўмовы для правядзення такой сустрэчы, але ініцыятыва аб яе правядзенні ляжыць у плоскасці рашэнняў расійскага і ўкраінскага бакоў",* — заявіў учора на брыфінгу ў МЗС начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар гэтага ведамства **Дзмітрый Міронччык.**

### Суд за фота з украінскім сцягам

*Фатаграфаванне з беларускім і ўкраінскім сцягам гродзенская міліцыя прыраўняла да несанкцыянаванай масавай акцыі.*

Пра гэта ўчора даведаліся гродзенскія праваабаронцы **Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч** і **Раман Юргель.** 25 сакавіка яны сфатаграфаваліся з беларускай і ўкраінскай сімволікай у некалькіх гістарычных мясцінах Гродна і змясцілі гэтыя здымкі ў інтэрнэце, такім чынам ушанаваўшы Дзень Волі і выказаўшы салідарнасць з украінскім народам. 3 красавіка іх усіх выклікалі ў міліцыю і на кожнага склалі па тры пратаколы за правядзенне несанкцыянаваных акцый — фактычна за кожны здымак. На момант здачы гэтага нумара ў друк яны былі затрыманы міліцыяй.

### Следства скончана

У чацвер упраўленне Следчага камітэта па горадзе Мінску абвясціла пра завяршэнне расследавання крымінальнай справы былога дырэктара вытворча-нарыхтоўчага прадпрыемства "Мінсккаапдругрэсурсы", які абвінавачваецца ў атрыманні хабараў у буйным памеры.

*"У ходзе расследавання было ўстаноўлена 10 фактаў атрымання абвінавачаным незаконнага ўзнагароджання. Сума хабараў склала 26,6 тысячы долараў і 98 мільёнаў беларускіх рублёў. Абвінавачаны сваёй віны не прызнаў",* — паведамляе УСК.

Цяпер папярэдняе расследаванне завершана, крымінальная справа перададзена пракурору для накіравання ў суд. За ажыццяўленне злачынства па ч.2 арт.430 Крымінальнага кодэкса Беларусі прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады.

### Вучыцца трэба ў БДУ

*Расійскае рэйтынгавае агенцтва "Эксперт РА" апублікавала рэйтынг вышэйшых навучальных устаноў краін СНД.*

У спіс лепшых увайшлі 153 ВНУ, якія прадстаўляюць Расію, Украіну, Казахстан, Беларусь, Малдову, Узбекістан, Азербайджан і Кыргызстан.

У рэйтынг лепшых патрапілі толькі чатыры беларускія ВНУ: Белдзяржуніверсітэт, Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт (БДМУ), Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт (БНТУ) і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі (БДУІР). Прычым, што тычыцца БДУ, то ён аказаўся ў спісе навучальных устаноў, выпускнікі якіх маюць "вельмі высокі" ўзровень падрыхтоўкі. БДМУ і БНТУ аказаліся аднесенымі да катэгорыі ВНУ, дзе выпускнікі паказваюць проста "высокі" ўзровень падрыхтоўкі. Узровень ведаў выпускнікоў БДУІР складальнікі рэйтынгу ацанілі як проста "прымальны".

### Няма дажджу — чакай пажару

*80 чалавек і 15 адзінак тэхнікі ўчора тушылі пажар на тарфяніку ў Салігорскім раёне каля вёскі Даманавічы.*

Торф гарыць на плошчы 10 гектараў. У тушэнні пажару бяруць удзел нават курсанты Салігорскага дзяржаўнага горна-хімічнага каледжа, паведамляе прэс-служба МНС.

### Валютны спакой

*Паводле вынікаў таргоў на адзінай сесіі Беларускай валютна-фондавай біржы, 3 красавіка еўра і расійскі рубель крыху патаннелі, а долар застаўся на ранейшых пазіцыях.*

Такім чынам, курс долара не змяніўся і складае 9900 беларускіх рублёў за 1 долар. Еўра патаннеў на 30 рублёў, і ўчора адзін еўра каштаваў 13.630 беларускіх рублёў. Расійскі рубель можна было купіць за 279 беларускіх.

ВІНШУЕМ!

## Стакгольм уганаруе Алеся Бяляцкага

*Сёння, 4 красавіка, у Стакгольме беларускаму праваабаронцу і палітвязню Алесю Бяляцкаму будзе ўручана ўзнагарода.*

*4 красавіка — гадавіна забойства Марціна Лютэра Кінга. Кожны год у гэты дзень уручаецца прэмія ад арганізацыі "Абаронцы грамадзянскіх правоў" (Civil Rights Defenders). У гэтым годзе яна прысуджана Алесю Бяляцкаму.*

*Сам Алесь застаецца за кратамі, таму на цырымонію запрошана ягоная жонка Наталля Пінчук.*



ТЫМ ЧАСАМ

### З турмы не выпускаюць

У студзені гэтага года ў Мінску праходзіла сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з кіраўнікамі беларускіх СМІ, падчас якой дырэктар БелаПАН Алесь Ліпай запытаўся пра лёс Алеся Бяляцкага, адзначыўшы, што прадстаўнікі грамадскасці даўно кампенсавалі шкоду, якую, як вызначыў суд, нібыта нанёс дзяржаве праваабаронца Бяляцкі.

Аляксандр Лукашэнка тады зрабіў выгляд, што ўпершыню чуе пра гісторыю з Бяляцкім, і адразу ж даручыў намесніку кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандру Радзькову разабрацца ў пытанні. *"Гэта сур'ёзны аргумент. Тут справа не ў палітыцы і не ў пазіцыі самога Бяляцкага. Клянуся вам, я яго не ведаў і не ведаю",* — сказаў Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы запэўніў, што калі інфармацыя аб кампенсацыі шкоды пацвердзіцца, то будзе разгледжана пытанне аб амністыі для Бяляцкага.

З часу даручэння прайшло ўжо два месяцы. "Наша Ніва" накіравала Аляксандру Радзькову запыт: якім чынам да кіраўніка дзяржавы была данесена інфармацыя аб кампенсацыі шкоды, нанесенай Бяляцкім? Адказ даў загадчык галоўнага ўпраўлення па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб Станіслаў Буко. Ён запэўніў, што *"А.В.Бяляцкім кампенсавана вызначаная рашэннем суда шкода, нанесеная дзяржаве", а "інфармацыя па гэтым пытанні даведзена да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". Аднак "у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам пры разглядзе пытанняў аб памілаванні ці ўмоўна- датэрміновым вызваленні факт пакрыцця шкоды разглядаецца ў комплексе з іншымі абставінамі, якія заслугоўваюць увагі",* удакладняецца ў адказе.

Так што Бяляцкі па-ранейшаму застаецца за кратамі.

ДЫПКУР'ЕР

### Пасольства Ізраіля ў Мінску спыніла страйк

*"Амбасада зноў працуе і аказвае ўсе консульскія паслугі",* — паведамілі ў дыпламатычным прадстаўніцтве.

Консульскі аддзел па прыёме дакументаў на візу працуе, як і раней: з панядзелка па пятніцу з 09.00 да 12.00. Нагадаем, што прафсаюз ізраільскіх дыпламатаў у сакавіку абвясціў "татальны страйк" з патрабаваннем аб павышэнні заробкаў.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### Станіслаў Шушкевіч перанёс аперацыю на сэрцы

Дзесяць дзён таму палітык яшчэ быў у шпіталі, але сёння адчувае сябе добра і ўжо вярнуўся да звыклых спраў.

Званок "Народнай Волі" заспеў Станіслава Станіслававіча ў Варшаве. На шчасце, нядаўна перанесеная аперацыя не вымагала доўгага перыяду рэабілітацыі. Магчыма, у суседняй сталіцы палітык на лячэнні?

— *Зараз я чытаю курс лекцый у Варшаўскім універсітэце, і ў мяне няма часу рабіць нейкія паўзы,* — прызнаўся спадар Шушкевіч. — *Шэсць лекцый ужо мінула, усё ідзе добра.*

**— Аперацыя была планавай?**

— *Праблемы ў мяне заўважылі яшчэ 3 студзеня. Пасля ішла падрыхтоўка і іншыя звычайныя ў такіх выпадках працэдуры. Я вельмі цешуся, што лячэнне праходзіла ў Беларусі. У нас ёсць цудоўныя спецыялісты і абсталяванне, каб рабіць такія аперацыі, як тая, што нядаўна перанёс я.*

**— Вы вярнуліся да працы, значыць, усё добра?**

— *Спадзяюся на гэта. Выконваю усе прадпісанні ўрачоў. Іх вельмі многа. Прымаю таблеткі, але хутка мне ўжо надакучыць іх прымаць, і я буду паводзіць сябе, як заўжды. Самае цяжкае — тое, што мне нельга піць піва, а ў Польшчы гэта цяжка перажыць, бо яно тут вельмі добрае!..*

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ПАЛІТКУХНЯ

### Адзінага кандыдата ў прэзідэнты апазіцыя будзе выбіраць на Кангрэсе?

План Кангрэса збіраюцца абмеркаваць да канца мая, а сам форум правесці восенню гэтага года. Днямі ў Вільнюсе беларуская апазіцыя абмеркавала пытанне абрання адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары-2015. На сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі практычна ўсіх дэмакратычных сіл Беларусі.

*"Мы прэзентавалі план правядзення кангрэса і вылучэння "адзінага" кандыдата ад дэмакратычных сіл Беларусі,* — распавёў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" **Віталь Рымашэўскі.** — Ніводная з палітычных дэмакратычных сіл Беларусі, якія задзейнічаны ў гэтым працэсе, на сённяшні дзень не адмовілася ад свайго ўдзелу ў вылучэнні адзінага кандыдата".

Паводле слоў Рымашэўскага, зараз план дапрацоўваецца, палітыкі будуць уносіць нейкія свае прапановы, але добра было б, каб канчатковае рашэнне па правядзенні Кангрэса было сфармулявана і агучана да канца вясны. Сам жа форум мяркуецца правесці восенню. Праўда, гэта з улікам таго, што прадстаўнікі апазіцыі знойдуць агульную мову паміж сабой. Але, як паказвае практыка, — не знаходзяць...

Нагадаем, што старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына паведаміла, што прэзідэнцкія выбары павінны прайсці не пазней за 20 лістапада 2015 года.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Бесплодие — не приговор

*По статистике ВОЗ, 15 процентов супружеских пар не могут зачать ребенка естественным путем. И эта цифра постоянно растет.*

*— Почему важно планировать беременность?*

*— Что может привести к бесплодию?*

*— Может ли продолжительное применение контрацептивов стать причиной бесплодия?*

*— Всем ли помогают в борьбе с бесплодием вспомогательные репродуктивные технологии?*

*— Каков процент удачи при проведении ЭКО?*





*На эти и другие вопросы на прямой линии ответят врачи-гинекологи медицинского центра "ЛОДЭ" — врач высшей категории **Лариса Викторовна КОЛОБУХОВА** и врач 1-й категории **Наталья Ивановна ДРИВИЛО.***

*Звоните в среду **9 апреля с 10.30 до 12.00** по телефону **328-68-41.***

*Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой "Прямая линия".*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
4 КРАСАВІКА 2014 г.

БЫЛО...

# Цвік у труну савецкай імперыі

*Ціха і непрыкметна прайшло дзяржаўнае свята пад гучнай назвай "Дзень яднання Расіі і Беларусі". Але ж 2 красавіка звязана яшчэ з адной важнай падзеяй, якая таксама засталася па-за ўвагай шырокай грамадскасці.*



...2 красавіка 1991 года ў Мінску адбыўся масавы страйк рабочых. Акцыі пратэсту перакінуліся ў іншыя гарады. Як такое магло здарыцца ў Беларусі, дзе супрацоўнікаў КДБ і міліцыянераў было больш, чым у любой іншай рэспубліцы?

Усё пачалося, здавалася б, з дробязі... У двары сталічнага электратэхнічнага завода на тадышняй вуліцы Казлова сабраліся жанчыны, якія выказвалі сваё абурэнне падаражаннем талонаў на харчаванне ў тутэйшай сталоўцы. Тады быў той самы перыяд, калі кошты раслі на ўсе тавары, і, натуральна, гэты працэс не мог не зачапіць і харчаванне на прадпрыемствах. Нехта прапанаваў выйсці за тэрыторыю завода, і жанчыны як адна падтрымалі гэтую ідэю. Дастаткова было пазваніць на суседні завод шасцерняў і паведаміць пра стыхійны страйк, як адтуль літаральна праз некалькі хвілін прыйшлі рабочыя. Нядоўга раіліся, і натоўп перамясціўся на вуліцу, на трамвайныя рэйкі. Інфармацыя пра акцыю распаўсюджвалася з хуткасцю маланкі. Рэакцыя была аднолькавая — рабочыя выходзілі і далучаліся да натоўпу. Тым больш што ісці трэба было не надта далёка. Рабочыя з завода імя Казлова і з ліцеек трактарнага аказаліся на вуліцы амаль адначасова. Дарожны рух быў перакрыты цалкам. Там, на трамвайных рэйках, і адбыўся першы мітынг рабочых.

Ужо на наступны дзень спыніліся трактарны і аўтазавод, рабочыя пайшлі не на працу, а на галоўную плошчу сталіцы. Тры першыя дні яны выступалі з эканамічнымі патрабаваннямі. Потым да самага апошняга пратэстнага дня, 21 мая, лозунгі ўжо насілі палітычны характар.

Што ў гэтым пратэсце было стыхійным, а што арганізаваным? І ці можа падобнае паўтарыцца ў сённяшняй Беларусі? Пра гэта мы запыталіся ў непасрэднага ўдзельніка тых падзей, дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання **Сяргея Антончыка**.

— Нікога не трэба было агітаваць выходзіць на вуліцы, — расказвае ён. — Людзі самі ў спяцоўках, з каскамі штодня прыходзілі на Плошчу. Тады такім месцам была плошча Леніна. Менавіта там быў створаны першы страйкам, у які быў абраны і я, у той час — дэпутат Вярхоўнага Савета і кіраўнік Мінскай гарадской рады "Рабочага саюза".

— **Страйкамы тады ўтвараліся не толькі ў сталіцы?**

— Тады страйкамы былі створаны і ў Салігорску, і ў Оршы... Пік забастовак быў тады, калі ў Мінску спыніліся амаль усе прадпрыемствы, а ў Оршы рабочыя перакрылі чыгунку...

— **Эканамічныя патрабаванні вельмі хутка перараслі ў палітычныя. Чаго дабіваліся рабочыя?**

— Яны патрабавалі вывесці парткамы за тэрыторыі заводаў. Патрабавалі адмяніць 5-ы артыкул Канстытуцыі СССР аб кіруючай ролі КПСС. Патрабавалі адстаўкі ўрада Паўлава (быў такі старшыня Савета міністраў СССР) і, здаецца, ці не адстаўкі самога Гарбачова.

— **Значыць, талоны на харчаванне былі толькі нагодай...**

— Людзі хацелі перамен, таму вельмі хутка на першы план выйшлі палітычныя патрабаванні. Прычынай стала сацыяльнае і палітычнае банкруцтва савецкай імперыі. Гэта быў яскравы знак усяму савецкаму кіраўніцтву, што ў імперыі больш няма ніякіх рэсурсаў для далейшага існавання. Па сутнасці, беларускія рабочыя забілі апошні цвік у труну савецкай імперыі. Беларусь была апошнім яе апірышчам — спакойная краіна, не тое што "нейкія там бандэраўцы". Дарэчы, пасля гэтага ў Беларусі і ў краінах Балтыі кампартыя так і не змагла аднавіцца ў поўным аб'ёме і стаць уплывовай палітычнай сілай. Так што, я лічу, менавіта ў тыя дні быў нанесены істотны ўдар па камуністычнай ідэалогіі. Партакраты ўбачылі, што рабочыя, якіх яны залагоджвалі рознымі прэферэнцыямі, першымі ж супраць іх і выступілі.

— **Тады высілкі рабочых далі плён?**

— Канешне. Страйкам дабіўся адмены завышаных коштаў. У крамы вярнулі старыя "цэннікі". Хаця ўжо тады многія разумелі, што кошты на каўбасу нічога, па сутнасці, не вырашаюць. Таму было ўзнята пытанне аб суверэнітэце. Дэ-факта, а не дэ-юрэ мінскія страйкі істотна пахіснулі імперыю, якая ў хуткім часе была разбурана.

— **Аднаго эканамічнага калапсу было б замала для тыктанічных палітычных зрухаў. Трэба, каб была яшчэ адна ўмова — падмурак. Тады была такая аснова?**

— А такім падмуркам стаў Беларускі Народны Фронт. Менавіта ў ім гуртавалася эліта. Выхадцы з БНФ утварылі "Рабочы саюз", і мы працавалі ў кантэксце нацыянальна-вызваленчага руху. Уявіце сабе, што КДБ разам са сваімі стукачамі нічога не змог зрабіць у нашым "запаведніку камунізму", не мог спыніць дэмакратычныя працэсы.

— **Тады баставала 100 заводаў. Цяпер і кошты несуразмерныя заробкам, і кепскія ўмовы жыцця, а рабочыя не высоўваюцца...**

— З прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі рэформы спыніліся, і эканоміка стала вяртацца ў адміністрацыйнае стойла. Мы прайшлі за вельмі кароткі тэрмін шлях ад савецкай ураўнілаўкі да адказнасці за сябе і сваю сям'ю, ад бестэрміновых працоўных дамоў да жорсткіх часовых кантрактаў, ад грамадства, над якім лунала надзея і вера ў лепшую долю, да грамадства страху і рэпрэсій... Ад буйных прамысловых прадпрыемстваў да тых, якія ператварыліся ў дробныя мануфактуры, ад вялікіх працоўных калектываў да дробненькіх кааператываў з нахабнымі наймальнікамі. Беларускія рабочыя страцілі тую сацыяльную энергію, якая з'яўляецца асноўным палівам для масавых выступленняў. Рабочыя страцілі сваю ролю ў грамадстве. Прайшло якіх дваццаць гадоў і...

— **У нас так і не стварыўся сярэдні клас. А калі б ён быў, сітуацыя змянілася б?**

— Лічу, што змянілася б. Цяпер большасць людзей думае толькі аб тым, каб зарабіць нейкія грошы і ўладкаваць сваё жыццё. Да таго ж улада не сядзіць склаўшы рукі. Вялікія намаганні яна кінула на тое, каб разбурыць усе сацыяльныя камунікацыі. Душаць незалежныя прафсаюзы, недзяржаўныя арганізацыі, апазіцыйныя палітычныя партыі...

— **Ці азначае гэта, што рабочыя ўжо не скарыстаюцца тымі метадамі, не сыграюць марш каскамі аб брук на плошчы Незалежнасці?**

— Неабходны тры ўмовы: эканамічны калапс, аслабленне ўлады і правільная контрагітацыя. Калі эканамічнае становішча пагоршыцца, але ўлада ўзмоцніцца, то мы атрымаем Паўночную Карэю. Надзея на тое, што заўтра будзе горш і тады людзі выйдуць на вуліцу, памылковая. Так могуць казаць толькі тыя, хто нічога не разумее ў палітыцы.

На мой погляд, для поспеху павінны сысціся тры складнікі, якія я ўжо назваў. Калі ва ўлады не будзе грошай купляць маўчанне рабочых, то гэта яшчэ не азначае, што рабочыя знясуць гэты рэжым. Хаця ўлады гэтага баяцца і сёння на буйных прадпрыемствах (як, напрыклад, на МАЗе ці МТЗ) за кошт крэдытаў даюць заробкі большыя, чым на маленькіх заводзіках. Ды вось толькі і МАЗ, і МТЗ самі сітуацыю не зменяць, ды і ўлады будуць іх усяляк супакойваць ды падманваць, каб незадаволенасць не выйшла за прахадныя. Таму патрэбны аўтарытэтныя людзі, якія будуць правільна праводзіць контрагітацыю сярод рабочых, вось тады сітуацыя зменіцца.

**Любоў ЛУНЁВА.**

АФІЦЫЙНА

## *Справяцца?*

*Генпракуратура зоймецца праблемай хуліганства на дарогах. Пра гэта заявіў генеральны пракурор* ***Аляксандр Канюк.***

Спадар Канюк запэўніў, што Генпракуратура надасць асаблівую ўвагу кіроўцам-ліхачам, а таксама матацыклістам, якія па начах перашкаджаюць спаць грамадзянам.

*"З хуліганствам на дарогах — падразаннем і гэтак далей — трэба заканчваць. Час спыніць і гэтыя шумавыя эфекты на матацыклах. Людзі скардзяцца. Мы гэтым хутка ўшчыльную зоймемся",* — заявіў Канюк.

У бліжэйшы час гэтае пытанне будзе абмеркавана на сумеснай з МУС нарадзе.

ІНІЦЫЯТЫВА

## *Закон дазваляе, але...*

*Гродзенскія актывісты страцілі цярпенне і вырашылі пачаць працэдуру адклікання свайго дэпутата ў Палаце прадстаўнікоў* ***Алены Бераснёвай.***

Былы рэдактар "Гродзенскай праўды" Алена Бераснёва з'яўляецца дэпутатам па 49-й акрузе. Актывісты спрабуюць даведацца, ці галасавала яна за ўвядзенне так званага "аўтамабільнага падатку", і, калі галасавала, хочуць пачаць працэдуру адклікання дэпутата. Бо спадарыня Бераснёва ў якасці кандыдата абяцала бараніць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў. А новы падатак — гэта ніяк не абарона, а дадатковы (і не малы) рабор.

Пра пісьмовую цяганіну з уладамі, якая пачалася, распавёў мясцовы актывіст **Зміцер Бандарчук:**

— Пракуратура Гродна адказала, што гэтае пытанне не ў яе кампетэнцыі і што па тэрытарыяльнай прыналежнасці Палаты прадстаўнікоў зварот трэба накіроўваць у пракуратуру Мінска. Пракуратура Мінска адказала, што яна таксама "не кампетэнтная" і, паколькі пытанне звязана з дэпутатам, яго можа разглядаць Генеральная пракуратура. Генпракуратура адказала, што ўсе пытанні, якія звязаны з дэпутатамі, павінна разглядаць Палата прадстаўнікоў. Цяпер ліст накіраваны туды.

Актывісты спадзяюцца дачакацца адказу ад Палаты прадстаўнікоў і потым адразу абяцаюць заняцца працэдурай адклікання дэпутата. Законам яна прадугледжана, але ніколі не рэалізоўвалася выбаршчыкамі. Так што гэта будзе першая спроба.

КАДРАТРУС

## «За неналежнае выкананне...»



**Аляксандр Лукашэнка** вызваліў ад пасады начальніка УКДБ па Гомельскай вобласці палкоўніка **Івана Ляскоўскага.** Фармулёўка — "за неналежнае выкананне службовых абавязкаў".

У гэтым годзе гэта ўжо не першае гучнае звальненне сілавікоў. Нагадаем, што нядаўна Аляксандр Лукашэнка звольніў начальніка УУС Гродзенскага аблвыканкама генерала **Івана Саўчыца** "за здзяйсненне ўчынкаў, якія дыскрэдытуюць званне супрацоўніка органаў унутраных спраў" і "ў сувязі з сістэматычным невыкананнем умоў кантракта". Сувязі паміж гэтымі кадравымі рашэннямі, напэўна, няма. Хаця, як і ў сітуацыі з Іванам Саўчыцам, афіцыйна так і не паведамляецца, за што канкрэтна звольнены высокі чын. Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу тое, што раней такія рэзкія фармулёўкі ў кадравых указах кіраўнік дзяржавы выкарыстоўваў вельмі рэдка.

З АРХІВА

## *Іван Ляскоўскі выдаў вялікі сакрэт: КДБ не мае дасье на кожнага*

*Былы кіраўнік Гомельскага УКДБ быў адным з нямногіх "чэкістаў", хто хоць пакрысе, але прыадкрываў завесу таямніцы і з дзейнасці сваёй службы, і з сябе асабіста. Вось урывак з яго інтэрв'ю газеце "Вечерний Гомель".*

— **Чаму вашым супрацоўнікам нельга выязджаць за мяжу? Ні на адпачынак, ні да сваякоў. Не давяраеце?**

— Ды чаму ж? Усім давяраем. Нашы супрацоўнікі выязджаюць за мяжу і на адпачынак, і на лячэнне. Зразумела, для гэтага ў нас ёсць усталяваная працэдура, бо мы — носьбіты дзяржаўных сакрэтаў і службовых таямніц. Таму супрацоўнік павінен паведаміць кіраўніцтву пра сваё жаданне і атрымаць дазвол.

— **Ці кантралюецца і ў якой форме асабістае жыццё супрацоўнікаў?**

— *(Смяецца).* Задам сустрэчнае пытанне: а як кантралююць ваша асабістае жыццё ў вас на працы? Вам дазваляецца, напрыклад, спазняцца ці прыходзіць на прэс-канферэнцыю ў нецвярозым выглядзе? Упраўленне КДБ па Гомельскай вобласці — гэта баявы згуртаваны калектыў аднадумцаў, перад якім пастаўлены вельмі сур'ёзныя задачы. Натуральна, мы зацікаўлены, каб у супрацоўнікаў усё было добра і на службе, і ў прыватным жыцці. У нас ёсць прафсаюз для дзяржслужачых і афіцэрскі сход для ваенных, па лініі якога праводзім сумесныя спартыўныя мерапрыемствы, адзначаем святы, у якіх бяруць удзел і жонкі, і дзеці. Мы павінны ведаць, што ў сям'і ў супрацоўніка ўсё добра, таму што калі ўсё ў парадку ў побыце, то і на працы ўсё будзе нармальна.

— **Пра што вы размаўляеце з жонкай і сябрамі, калі аб рабоце нельга?**

— Ну, не абавязкова ўсе размовы зводзіць да працы. Супрацоўнікі КДБ — высокаадукаваныя, інтэлігентныя людзі, якія выдатна разбіраюцца ў мастацтве, літаратуры, палітыцы, эканоміцы. Таму тэмы для размовы з жонкай і сябрамі могуць быць любыя. Аператыўнай дзейнасці мы ў пазаслужбовых зносінах не дакранаемся. І наогул, у нас не прынята абмяркоўваць службовыя справы з тымі, хто не мае да іх непасрэднага дачынення. Як кажуць, менш ведаеш — лепей спіш.

— **Як і чаму асабіста вы вырашылі звязаць лёс са службай у КДБ?**

— Пасля васьмі класаў школы паступіў у аўтамеханічны тэхнікум у Мінску, які скончыў з чырвоным дыпломам. Затым служыў у арміі — у Крамлёўскім палку. Дарэчы, такой з'явы і паняцця, як дзедаўшчына, там наогул не было. Больш за тое, увесь тэрмін службы я пражыў паводле статута ў літаральным сэнсе гэтага слова. Да прыкладу, калі аднаму салдату паложана 50 грамаў масла, то не дай бог выдадуць 49. Пасля праходжання службы мне прапанавалі пайсці на вучобу для далейшай працы ў КДБ СССР. Я пагадзіўся. І не шкадую.

— **Чым вы любіце займацца ў вольны час? Якія кнігі чытаеце? Ці ёсць любімы (літаратурны, кіношны) персанаж, які працуе на спецслужбу, — той жа агент 007 або палкоўнік Ісаеў?**

— Шчыра кажучы , вольнага часу практычна няма. Звычайна чытаю публіцыстыку, перыёдыку, чэрпаю інфармацыю з інтэрнэту. Калі атрымліваецца трохі расслабіцца, люблю мастацкую літаратуру. Нядаўна перачытаў сёе-тое з Чэйза, падабаюцца гістарычныя і публіцыстычныя творы Роя Мядзведзева. З кінаперсанажаў мне імпануе Канстанцін Ладзейнікаў, якога сыграў Данатас Баніёніс ў фільме "Мёртвы сезон". У ім распавядаецца пра савецкіх разведчыкаў, якія выкрывалі дзейнасць аднаго з заходніх інстытутаў, што працаваў над стварэннем новай страшнай зброі, якая разбурае псіхіку чалавека.

— **У якім фільме работа разведкі-контрразведкі паказана з максімальнай дакладнасцю і найбольш блізкая да рэальнасці?**

— Гэта, як я ўжо сказаў, "Мёртвы сезон" і "ТАСС упаўнаважаны заявіць...". І, калі адкінуць шматлікія недакладнасці, "Сямнаццаць імгненняў вясны".

— **Які, на ваш погляд, самы недарэчны міф давodзілася чуць аб рабоце органаў КДБ? Развейце яго...**

— Ну, гэта, бадай, міф пра тое, што ў КДБ на кожнага маецца дасье. *(Усміхаецца.)* Хаця... можа, і не варта яго развейваць, няхай так усе і думаюць...

УЖАС!

## *Дети на продажу*

*В Беларуси зафиксированы первые случаи торговли новорожденными. Наказать виновных, скорее всего, не удастся, так как они использовали пробелы законодательства.*

Главное управление по борьбе с организованной преступностью и коррупцией МВД Беларуси сообщило о фактах торговли детьми, которые зафиксированы в Беларуси.

*"Зафиксирован ряд случаев, когда под видом суррогатного материнства нелегально проводилась запрещенная законодательством процедура "прямого донорства" и последующая торговля новорожденными",* — сообщил начальник ГУБОПиК полковник милиции **Альберт Лягович.**

*"В стране появились посредники, деятельность которых сегодня не регламентирована национальным законодательством, что позволяет им уклоняться от налогообложения и получать высокие прибыли при отсутствии даже минимальных рисков для себя и ответственности за взятые обязательства",* — подчеркнул Альберт Лягович.

*"В стране появились посредники, деятельность которых сегодня не регламентирована национальным законодательством, что позволяет им уклоняться от налогообложения и получать высокие прибыли при отсутствии даже минимальных рисков для себя и ответственности за взятые обязательства",* — подчеркнул Альберт Лягович.

Однако, по его словам, *"привлечение к уголовной ответственности вышеназванных посредников проблематично из-за несовершенства законодательства и отсутствия правоприменительной практики".*

РАЗОБЛАЧЕНИЕ

# Картина маслом Даны Щетько

Дана Борисовна Щетько — заместитель директора по воспитательной работе столичной гимназии №10. Она была председателем участковой избирательной комиссии №77, расположенной в этом учебном заведении. Естественно, что и все остальные восемь членов участковой комиссии, как водится в нашей замечательной стране, были учителями гимназии — то есть подчиненными Даны Борисовны.

А я был на этом участке наблюдателем. Вместе с коллегой Ниной Похлопко мы вели долгосрочное наблюдение, организовав постоянное дежурство с 18 по 23 марта — с начала досрочного голосования и до завершения подсчета голосов, не оставив в рабочее время участок без своего присутствия ни на секунду.

По всему было видно, что Дана Борисовна Щетько — хороший педагог. Таких любят ученики и родители. От нее исходит позитивная энергетика. Она мила и жизнерадостна. С ней приятно общаться на разные темы.

Все шесть дней голосования бывшие ученики, родители нынешних и бывших учеников гимназии, приходившие на участок, искренне приветствовали своего завуча и вели с ней дружеские беседы.

Впрочем, замечательные педагогические качества не помешали Дане Борисовне организовать выборы на участке с серьезными нарушениями.

Первый инцидент возник после того, как я, воспользовавшись правом наблюдателя, внес в комиссию письменное предложение об установлении открытого и прозрачного подсчета голосов. Такого, когда каждый член комиссии считает не определенную часть бюллетеней, а когда каждый член комиссии участвует в подсчете каждого бюллетеня.

Получил на свое предложение отказ за подписью Даны Щетько, начинающийся словами: "Участковая избирательная комиссия сообщает...".

Спрашиваю у Даны Борисовны, когда было заседание комиссии, рассмотревшее мое предложение и почему меня на это заседание не пригласили (а по Избирательному кодексу обязаны были!).

Председатель-педагог отвечает что-то невнятное.

Оно и понятно. Накануне я ушел с участка после его закрытия в 19.00 — никакого заседания не было. Пришел на следующий день до 10.00 — к открытию. И сразу же получаю ответ комиссии на свое письменное предложение.

Значит, картина маслом получается такая. Одна из версий.

После моего ухода с участка, после опечатывания ящика для досрочного голосования и сдачи его под охрану дежурному милиционеру члены избирательной комиссии либо поздним вечером, либо под покровом ночи, либо ранним утром (ни свет, ни заря) тайно собрались в гимназии. Они открыли находившуюся под охраной милиционера комнату с опечатанным ящиком для голосования, выпроводили из нее милиционера и провели заседание. При этом не пригласили меня — заявителя предложения (уверяю: я пришел бы даже под покровом ночи).

Сделав свое "темное" дело (в том смысле, что заседание проходило поздно), они дали возможность милиционеру снова закрыться в комнате с ящиком и продолжать дежурство. Сами, видимо, разошлись по домам, но так, чтобы в 10 утра участок снова заработал.

Придерживаясь этой версии, я делаю вывод, что никакого заседания комиссии не было и получил я за подписью Щетько отписку.

Второй инцидент оказался куда серьезнее.

22 марта, в последний день досрочного голосования, на участок прибыли избиратели Петкевич — муж и жена. Хотели проголосовать, но обнаружили, что за них кто-то это уже сделал. Как и за их сына, планировавшего голосовать в основной день, 23 марта. Напротив фамилий всех трех Петкевичей в списке избирателей стояли подписи неизвестных им лиц.

Понятно, что кто-то из замечательных педагогов гимназии №10 выдал как минимум три бюллетеня "левым" людям, что само по себе делает выборы на участке №77 сфальсифицированными.

Наблюдатель Нина Похлопко зафиксировала этот факт, подав жалобу. На следующий день (опять без заседания) получила от председателя комиссии очередную отписку.

Похлопко подает повторную жалобу с требованием установить, кто из членов комиссии незаконно выдал эти три бюллетеня, и признать выборы недействительными.

На этот раз мы добились проведения заседания. Решение комиссии ошеломляющее (цитирую с сохранением пунктуации оригинала): *"Выдача бюллетеней неизвестным лицам без документов, удостоверяющих личность не проводилась".*

(В скобках хочу обратить внимание читателей, что после слова "личность" по правилам русского языка должна ставиться запятая. Потому что слово "удостоверяющих" является причастием, а причастные и деепричастные обороты с двух сторон выделяются запятыми. Это я вам как выпускник танкового факультета военно-политического училища говорю. Но, видимо, председатель комиссии, она же хороший педагог — мы отмечали это выше — забыла это элементарное правило.)

И все-таки: как это бюллетени не выдавались неустановленным лицам? А три бюллетеня Петкевичей, выданные не им, а неизвестно кому? Да еще под "липовые" подписи...

Самое смешное, что какая-то неведомая сила вынудила мужа и жену Петкевичей на следующий день, 23 марта, вновь прийти на избирательный участок и проголосовать. Сына мы на участке не видели. Возможно, молодой человек ошалел от подтасовки и решил не участвовать в таких "выборах" вовсе.

Так вот, супруги Петкевичи получили-таки два бюллетеня и проголосовали. При этом они сообщили нам, наблюдателям, что комиссия внесла их в дополнительный список.

Это правильно. Это мы одобряем и поддерживаем. Люди не должны лишаться избирательного права из-за "косяков" избирательной комиссии. Но как тогда быть с наличием трех Петкевичей в основном списке и двух — в дополнительном? Ведь избирателей-Петкевичей на участке на самом деле три, а в списочном составе оказалось аж пять.

Любопытно было посмотреть, как с такой коллизией комиссия справится при подсчете голосов и сведении воедино всех цифр. Цифры-то должны совпадать: общее количество полученных на участок бюллетеней, количество выданных бюллетеней, количество испорченных бюллетеней, общее количество избирателей и количество избирателей, принявших участие в голосовании... Все должно быть "тютелька в тютельку".

Не переживайте, все у педагогов сошлось. Наличие пяти Петкевичей вместо трех (а это как минимум два лишних бюллетеня) никоим образом в протоколе не обозначено.

Тут впору вспомнить старый бухгалтерский анекдот:

— У вас есть на примете хороший бухгалтер?

— Да, есть. Только ему еще три года сидеть...

Понимаю, что гимназия №10 — с музыкальным уклоном. Но хоть один учитель математики в ней есть! Может быть, он даже входил в состав избирательной комиссии. Пусть тогда поможет ученикам решить запутанную арифметическую задачку, в которой вместо трех Петкевичей в списке избирателей оказалось пять Петкевичей и при этом комиссия никак не отобразила этот феномен в итоговом протоколе.

**Сергей ВОЗНЯК.**

СМЕХ СКРОЗЬ СЛЁЗЫ

## *У Лідзе склалі пратакол на ўдзельніка «мітынгу без слоў»*

*Мясцовыя грамадскія актывісты 25 сакавіка на гарадскіх могілках ушанавалі памяць беларускіх дзеячаў, якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны. А цяпер да іх мае прэтэнзіі міліцыя.*

Сем чалавек на могілках запалілі свечкі і разгарнулі бел-чырвона-белы сцяг. За імі сачылі людзі ў цывільным, якія перапісалі прозвішчы прысутных, а з 2 красавіка пачалі выклікаць іх у міліцыю. На Станіслава Судніка ўжо склалі пратакол.

*"З абвінавачаннямі я не пагадзіўся, паколькі ніякага мітынгу на могілках мы не праводзілі, не было нават выступленняў. Але ў пратаколе так і запісана, што мяне абвінавачваюць "за ўдзел у мітынгу без слоў",* — абураецца спадар Суднік.

